Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

6 лютага 2004 года

№ 6 (459)

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года







## Навіны рэгіёну

### Гасцявы дом

**МЯДЗЕЛ.** У Нацыянальным парку на беразе Нарачы пачаў працаваць гасцявы дом. У двухпавярховым катэджы з усімі выгодамі могуць адпачыць да 6 чалавек. Кошт арэнды на суткі — 80 тысяч рублёў. Рыхтуецца яшчэ адзін такі дом на возеры Мядзел.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

### Не разгубіўся

**ВІЛЕЙКА.** Вучань 8 класа СШ №5 **Сяргей Наркевіч** выратаваў чатырохгадовага аднавяскоўца са Снежкава. Хлопчык уваліўся ў палонку, якую зрабілі рыбакі. Сяргей, пачуўшы крык, кінуўся і выцягнуў тапельца за башлык.

**Марына СЛІЖ**

### Новая паслуга

**ВАЛОЖЫН.** У Івянецкім аддзяленні ашчаднага банка "Беларусбанк" упершыню пачала працаваць валютная каса. Жыхарам мястэчка, каб купіць альбо прадаць валюту, не трэба ехаць у райцэнтр.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

### Абрынуўся дах

**АШМЯНЫ.** У вёсцы Каменны Лог 3 лютага ад снегу абваліўся дах топачнага памяшкання збожжасушылкі мясцовага сельскагаспадарчага кааператыва. Пашкоджаны цеплагенератар сушылкі.

**Святлана ЦІШКО.**

### Філасофія саломкі

**АСТРАВЕЦ.** Выстава-вернісаж «Філасофія і паэзія саломкі» пройдзе а 15 гадзіне 8 лютага ў цэнтральнай раённай бібліятэцы. Аўтар работ — **Ніна Мілаш**, эканаміст па адукацыі. Яе кампазіцыі маюць незвычайныя назвы: "Жыта і вечнасць", "Галактыка".

**Святлана ЦІШКО.**

### Навокал — галалёд

**МАЛАДЗЕЧНА.** У сувязі з галалёдам у траўматалагічным аддзяленні гарадской бальніцы прыбыло траўміраваных. Аддзяленне разлічана на 60 чалавек. Па словах доктара **Уладзіміра Каспяровіча**, часцей ламаюць шчыкалаткі.

**Ірына РАБУШКА.**

### Смаргонцы разам

**СМАРГОНЬ.** У горадзе пачаў працаваць дабрачынны фонд "Разам". Яго дзейнасць накіравана на сацыяльнае развіццё рэгіёну. Старшыня праўлення фонду псіхолаг **Алег Лабейка.**

**Ірына РАБУШКА.**



# Тэракт па тэлефоне




**У сераду раніцай адбылася эвакуацыя ўсіх навучэнцаў, выкладчыкаў і абслугоўвага персаналу Маладзечанскага гандлёва-эканамічнага каледжа. Паступіла паведамленне, што будынак замініраваны.**

Фота Марыны СЛІЖ.

**МАЛАДЗЕЧНА. У сераду раніцай навучэнцы гандлёва-эканамічнага каледжа не змаглі заняць свае месцы ў аўдыторыях. Будынак установы быў замініраваны.**

Гэта ў 12 гадзін супрацоўнікі міліцыі, гарраймаддзела па надзвычайных сітуацыях і сапёры, якіх выклікалі з Мінска, скажуць, што званок не пацвердзіўся. А каля 8 гадзін раніцы маладзечанцы, якія спяшаліся на працу альбо рынак, думалі, што ў горадзе здымаюць кіно.

Ля будынка гандлёва-эканамічнага каледжа стаялі ўзброеныя міліцыянеры, па вуліцы Талстога, уключыўшы сірэны, імчалі спецмашыны службы выратавання. Праўда, у двор каледжа яны трапілі не адразу, перашкодзіла снежнае месіва, якое ўтварылася на падступах да дома №3.

"Не затрымлівайцеся, праходзьце", — прасіў прахожых міліцыянер, які стаяў у ачапленні. Тым не менш кожны стараўся высветліць, што здарылася. Праз некалькі хвілін над натоўпам папаўзлі чуткі — каледж замініраваны. У гэты ж час, прыкладна ў 8 гадзін, з інтэрната навучальнай установы сталі выводзіць людзей. Ланцужком, адзін за адным, выбягалі юнакі і дзяўчаты і з цэнтральнага ўвахода ў навучальную ўстанову. Супрацоўнікі міліцыі загадалі адысці ім на бяспечную ад каледжа адлегласць.

"Страшна?" — спыталася ў дзяўчат, што ў чаканні развязкі падзей стаяць пад дажджом на Цэнтральнай плошчы. "Што вы, — смяюцца яны. – Хутчэй за ўсё хтосьці такім чынам пажартаваў. А нам у выніку заняткі перанеслі, на дзве гадзіны дня".

У 10 гадзін раніцы ў Маладзечна прыехалі спецыялісты службы размініравання Мінскага спецыялізаванага гарнізона. "Аўдыторыі, службовыя памяшканні, а іх больш за 300, прылеглы будынак інтэрната, — сказаў намеснік начальніка Маладзечанскага гарраймаддзела па надзвычайных сітуацыях **Генадзь Самаль**, — абследавалі да 12 гадзін. Ніякіх падазроных рэчаў, прадметаў, знойдзена не было, і спецыялісты службы размініравання далі пісьмовую даведку, што заняткі можна працягваць".

Паведамленне аб тым, што гандлёва-эканамічны каледж замініраваны, паступіла на вахту інтэрната ў 7 гадзін 30 хвілін. Па словах вахцёра, якая размаўляла з тэлефонным тэрарыстам, голас быў жаночы.

"За апошнія тры гады, — расказвае Генадзь Самаль, — тэлефонныя тэрарысты пужалі маладзечанцаў каля дзесятка разоў. "Мініравалі" школы, чыгуначны вакзал, паліклініку, дзіцячую бальніцу. Факты, на шчасце, не пацвердзіліся. А колькі грошай патрачана ўпустую!".

Па словах супрацоўнікаў Маладзечанскага ГРАУС, такія свавольствы каштуюць дорага. У выпадку, калі тэлефонны тэрарыст будзе знойдзены, яго можа чакаць зняволенне тэрмінам да 5 гадоў.

**Марына СЛІЖ.**

## Звініць тэлефон




У Смаргоні і раёне працуюць 59 таксафонаў. Гэта адпавядае сацыяльным стандартам у Беларусі.

5-я старонка

## Тэст як экзамен?



Кожны абітурыент сёлета абавязаны прайсці цэнтралізаванае тэсціраванне.

7-я старонка

## Акадэмік Грымаць



Акадэмік Адам Грымаць нарадзіўся ў Ілі ў сям'і простых местачкоўцаў.

8-я старонка

■ ГАНДАЛЬ

# «Беларускі куток»

**АСТРАВЕЦ. У інтэр'ер райцэнтра кафэ "Беларускі куток" упісалася вясной мінулага года. З таго часу і стала адным з любімых месцаў адпачынку астраўчан.**

"Першапачаткова наша ўстанова, — расказвае намеснік дырэктара Наталля Булавіцкая, — планавалася як сямейнае кафэ. Таму доўга думалі над яго інтэр'ерам, меркавалі, якой формы купіць столікі, якой каляровай гаме аддаць перавагу пры афармленні залы. Хацелася, каб яна была не проста прыгожай, але і ўтульнай, камфортнай. Каб чалавек, наведаўшыся сюды раз, захацеў прыйсці яшчэ".

Зразумела, не толькі знешні выгляд рабіў стаўку калектыў "Беларускага кутка". Кіруючыся падказкамі старшыні райспажыўтаварыства, дырэктара прадпрыемства грамадскага харчавання, прадумалі асартымент, улічыўшы асаблівасці густаў астраўчан, пачынаючы з дашкольнага ўзросту. Дарэчы, яны тут частыя госці. Многія прыходзяць не толькі ў выхадныя дні, але і ў будныя, з мамамі, татамі. Папіць соку, паласавацца пячэннем альбо марожаным, якога прапаноўваюць у кафэ больш дзесяці гатункаў. "Дзецям звычайна падабаецца з сіропам альбо шакаладам, — гаворыць Наталля Булавіцкая. – А тым юным наведвальнікам, што не супраць падсілкавацца больш грунтоўна, прапаноўваем салату, драніκі, сырнікі".



Бармэн Таццяна Кайгародава з астравецкай кавярні "Беларускі куток".

Фота Марыны СЛІЖ.

Гатуюць іх повары **Святлана Калеснічэнка і Марына Язерская**, у падпарадкаванні якіх утульная, сучасная кухня. Тут жа чаруюць над абедамі. У "Беларускі куток" прыходзяць папалуднаваць як астраўчане, так і госці горада, маладыя спецыялісты, практыканты. "Абед у нас, — расказвае бармэн **Таццяна Кайгародава**, — каштуе прыкладна 2000-2500 рублёў. А калі чалавек на другое заказе не мясную страву, а напрыклад, драніκі, то абед атрымаецца яшчэ таннейшы".

Месцаў, дзе можна было б папалуднаваць, у Астраўцы не так ужо і шмат. Сталоўку з-за адсутнасці кліентаў зачынілі, працуюць толькі мясцовы рэстаран ды некалькі прыватных пунктаў хуткага харчавання, дзе прапаноўваюць стравы з паўфабрыкатаў. У "Беларускім кутку" ўсё, як кажуць, – з пылу, з жару. Тут шкадуюць страўнікі кліентаў і не гатуюць пра запас.

"Шмат у нас наведвальнікаў, — гаворыць Таццяна Кайгародава, — і вечарам. Прыходзяць як сямейныя пары, так і моладзь, закаханыя. Слухаюць музыку, глядзяць тэлевізар, танцуюць. Людзі розныя – густы таксама. Адны аддаюць перавагу марожанаму, фруктам, іншыя смакуюць шампанскае альбо дэгустуюць французскае віно".

Летам побач з "Беларускім кутком" працавала яшчэ і вынасное кафэ. Гандлявалі піражкамі, чабурэкамі, прахаладжальнымі напіткамі, а яшчэ – шашлыкамі, якія гатавалі на мангале, устаноўленым побач.

На гэтым клопат прадпрыемства грамадскага харчавання аб гараджанах не заканчваецца. У планах – адкрыццё більярднай і залы гульнявых аўтаматаў, якія размесцяцца ў сумежным з кафэ памяшканні. Там ужо вядуцца рамонтныя работы.

Марына СЛІЖ.

## Курсы валют НБ РБ

| | 29.1 руб. | 5.2 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 2155,00 | 2159,00 |
| Еўра | 2716,59 | 2708,68 |
| Злоты | 573,37 | 566,70 |
| Літ | 786,70 | 784,41 |
| Расійскі рубель | 75,65 | 75,68 |
| **«Вулічныя» курсы ў Маладзечне** | | |
| Долар | 2160/2170 | 2160/2170 |

Маладзечна

## Цэны на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 28.1 | 4.2 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 13870 | 13870 |
| Сасіскі, 1 кг | 4980 | 4980 |
| Селядзец, 1 кг | 2500 | 2500 |
| Рыс, 0,9 кг | 950 | 950 |
| Грэчка, 0,9 кг | 1500 | 1500 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1570 | 1570 |
| Алей, 1 л | 2050 | 2000 |
| Маянэз, 200 г | 500 | 470 |
| Кава «Пеле», 100 г | 2000 | 2100 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 1100 | 1100 |
| Соус там.«Мінскі», 0,5 л | 950 | 950 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 850 | 870 |
| Капуста, 1 кг | 200 | 250 |
| Морква, 1 кг | 350 | 350 |
| Лімоны, 1 кг | 3200 | 3200 |
| Апельсіны, 1 кг | 1980 | 1980 |
| Яблыкі, 1 кг | 1300 | 1300 |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Малако, 1,5 л | 900 | 900 |
| Смятана, 1 л | 2400 | 2200 |
| Масла, 1 кг | 5000 | 5100 |
| Тварог, 1 кг | 2300 | 2000 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 2400 | 2400 |
| Бульба, 1 вядро | 2000 | 2200 |
| Яблыкі, 1 кг | 1000 | 1000 |

## Новы адрас

**МАЛАДЗЕЧНА. На новы адрас пераехаў Маладзечанскі рэгіянальны цэнтр інфармацыі, асветы і абароны правоў спажыўцоў.**

Цяпер ён месціцца па адрасе: вул. Прытыцкага, 3, другі паверх. Тэлефон 70969. Прыём спажыўцоў цэнтр праводзіць кожныя аўторак і чацвер з 16.00 да 18.00, а ў суботу – з 10.00 да 14.00 на рынку "Кірмаш".

Аддзел інфармацыі "РГ".

## «Гарачая лінія»

**МІНСК. «Гарачая лінія» пачала працаваць у Міністэрстве сувязі.**

Па мінскім нумары 2222686, вы можаце паведаміць аб якасці тэлефоннай і правадной радыёсувязі.

Аддзел інфармацыі "РГ".

## Адраджаюць народныя промыслы

**ВАЛОЖЫН. У Івянецкім музеі Фелікса Дзяржынскага адраджаюць народныя промыслы.**

У Доме рамёстваў, што існаваў пры музеі, зроблены рамонт і ўстаноўлены кавальскі горан.

У хуткім часе тут адкрыецца яшчэ і экспазіцыя "Кавальства і ліццё".

Наталля ШТЭЙНЕР.

## Тарыфы растуць

**Тарыф на аплату электраэнергіі з 1 лютага складае для гарадскога і сельскага насельніцтва 72,7 рубля за 1 кВт.**

Для насельніцтва ў дамах, абсталяваных электраплітамі, – 52,8 рубля. Змяняцца тарыфы, паведамілі "РГ" у Вілейскім міжраённым аддзяленні "Энерганагляду", будуць штомесяц.

Святлана ЦІШКО.

## Змаганне з надвор'ем

**МАЛАДЗЕЧНА. З пачатку года камунальныя службы горада змагаюцца з наступствамі шчодрых сёлета снегападаў.**

Паколькі адным камунальнікам справіцца са стыхіяй цяжка, распараджэннем гарвыканкама гады тры таму горад быў падзелены на 33 квадраты. Кожны ўчастак замацаваны за пэўнай арганізацыяй, якая мае снегаўборачную тэхніку. Напрыклад, за чысціню ад снегу двароў у квартале, абмежаваным вуліцамі Міру, Вялікім Гасцінцам, Будаўнікоў і Скарыны, адказвае ААТ «Электрамодуль». На працягу студзеня па арганізацыях тройчы рассылаліся тэлефанаграмы, у якіх былі прызначаны дзень, калі тэрмінова трэба ачысціць "сваю" тэрыторыю. Такая схема, па словах намесніка начальніка аддзела па надзвычайных сітуацыях Генадзя Самаля, дае добрыя вынікі.

У барацьбе з капрызамі надвор'я камунальнікі аб'ядналіся з пажарнымі. Калі на дахах дамоў вырастаюць ледзяшы (бываюць даўжынёй да трох метраў), выклікаюць пажарных. Спецыяльнай тэхнікі ў іх няма, таму для збівання ледзяшоў выкарыстоўваюць механізаваныя лесвіцы. Паслуга платная. У бухгалтэрыі гарадскога аддзела па надзвычайных сітуацыях сказалі, што ўлічваецца праезд да будынка – 1140 рублёў за кіламетр, работа машыны – 10370 рублёў, работа лесвіцы – 22770 рублёў, падрыхтоўка машыны (устанаўленне дадатковых апірышчаў, "лап" для большай устойлівасці) – 13660 рублёў за гадзіну. Паколькі падрыхтоўка займае не больш за 10 хвілін, гаспадару дома ці прадпрыемства, якое знаходзіцца ў пяці кіламетрах ад пажарнай часці, за гадзіну работы давядзецца заплаціць каля 36000 рублёў. Калі ледзяшы пагражаюць жыццю і здароўю вялікай колькасці людзей, напрыклад, каля гандлёвага дома, пажарныя працуюць самі, не па заказе.



Ледзяшы з даху СШ №14 30 студзеня збівалі пажарныя.

Фота Святланы ЦІШКО.

Святлана ЦІШКО.

■ ЗДАРЭННЕ

# Смерць перад святам

**МАЛАДЗЕЧНА. У вёсцы Зоранька больш не свецяцца вокны ў доме пад нумарам 41. Няма каму запаліць святло ў хаце, гаспадары якой загінулі падчас пажару.**

Няшчасце адбылося 7 студзеня, пад вечар. Сям'я ў гэты час адпачывала. Ніхто не ўбачыў, як з печкі выпаў вугольчык, не папярэдзіў бяду.

Першым, што нешта ў бацькоўскай хаце не так, заўважыў сын Аляксандр, які акурат у гэты час ішоў адведаць сваіх. Вельмі ж хутка густы дым валіў з коміна. Адчыніў дзверы... і сам ледзь не страціў прытомнасць. У пакоях бушаваў агонь, і ўся хата была запоўнена едкім дымам.



Штогод дзесяткі пажараў становяцца прычынай смерцяў нашых землякоў. ФотаByMedia.Net

У адзін дзень Аляксандр страціў трох дарагіх сэрцу людзей: маці, бацьку і брата, смерць якіх наступіла ад таксічнага дзеяння вокісу вугляроду. Перажыць Лоташам боль страты, у Аляксандра ёсць яшчэ брат Іван, дапамагала ўся вёска. Не было, напэўна, у Зораньцы чалавека, які б застаўся раўнадушным да іх гора. Кожны стараўся аказаць пасільную дапамогу, падтрымаць маральна.

"На маёй памяці, — расказвае сакратар Палачанскага сельвыканкама Людміла Леган, — такі выпадак першы. — Ды і жыхары навакольных вёсак не памятаюць, каб вось так, у адзін дзень, загінула ўся сям'я. Я добра ведала гаспадароў гэтага дома: добрыя, спакойныя, шчырыя людзі. Надзея Пятроўна працавала загадчыцай Зоранькаўскага сельскага клуба, толькі ў мінулым годзе пайшла на пенсію. Яе муж, Леанід, быў у калгасе паляводам. У апошнія часы ён, праўда, хвараў, атрымаў 2 групу інваліднасці. Так што гаспадыні хапала працы і ў полі, і на агародзе; і за мужам трэба было прыглядаць. З сынам Ігарам, ён 1970 года нараджэння, і цягнулі гаспадарку. Мелі карову, штогод гадавалі па чацвёра свіней.

Гаспадыня была надзіва таварыскім, безадмоўным, добрым, цярплівым чалавекам. 20 гадоў яна даглядала ляжачую маці і ніколі не сказала, што стамілася".

Не стрымала на вясковых могілках слёз, праводзячы гэтых людзей у апошні шлях, і намеснік старшыні сельскагаспадарчага вытворчага кааператыва "Палачаны" Ніна Станевіч. Шмат добрых, шчырых слоў сказала яна пра памерлых, якіх не будзе хапаць не толькі родным, але і суседзям, знаёмым, калегам.

Дом Лотышаў уцалеў. Сцены пашкоджаны толькі ўнутры, ды ад моцнай тэмпературы папсавалася маёмасць. Вяскоўцы, калі ідуць міма, не-не і кінуць позірк у двор, дзе ўжо чатыры тыдні стаіць цішыня. Няма гаспадароў, няма каму абуджаць яго галасамі, таптаць сцяжынкі да калодзежа й варот...

Марына СЛІЖ.

■ ЧЫГУНКА

## Спакойна ў нас не бывае

**МАЛАДЗЕЧНА. Чыгунка — не месца для прагулак. Гэтую простую ісціну супрацоўнікі Маладзечанскага аддзела ўнутраных спраў (АУС) на транспарце даводзілі жыхарам рэгіёну не раз. Аднак пільнасці ад гэтага ў пасажыраў не прыбавілася. Вынікам таму, 8 няшчасных выпадкаў на аб'ектах чыгункі, у выніку якіх 4 чалавекі загінулі.**

Галоўная прычына траўматызму — празмернае злоўжыванне пасажырамі спіртных напояў, а таксама пагарда правіламі асабістай бяспекі. Толькі за пераход чыгуначных пуцей ва неўстаноўленых месцах былі прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці 276 чалавек (лічба дадзена без уліку асоб, пакараных работнікамі станцыі Маладзечна).

Асаблівы непакой выклікаюць у супрацоўнікаў органаў правапарадку няшчасныя выпадкі з удзелам дзяцей. Прычына — бяспечнасць бацькоў, адсутнасць з іх боку належнай увагі, кантролю за паводзінамі сваіх дачок і сыноў. Пакінутыя без нагляду, яны часта арганізоўваюць гульні на чыгунцы і не заўважаюць, як трапляюць пад колы цягнікоў.

Не ўсё ў парадку на чыгунцы і з маёмаснай, асабістай бяспекай пасажыраў. Былі выпадкі, калі ў іх выкрадалі рэчы, грошы, дакументы. Калі на чысціню, то ў большасці няшчасцяў былі вінаваты самі пасажыры. Некаторыя з іх пакідалі рэчы без нагляду, іншыя распівалі спірныя напоі з незнаёмымі людзьмі, якія пасля і праводзілі "рэвізію" ў кішэнях сваіх сабутыльнікаў.

Дастаткова праблем з супрацьпраўнай дзейнасцю падлеткаў. У мінулым годзе ў Маладзечанскі АУС даставілі 196 свавольнікаў, якія нанеслі чыгуначным арганізацыям страт на суму 1500000 рублёў. Больш за 70 падлеткаў трапіла ў міліцыю за ўжыванне спіртных напояў ці з'яўленне ў нецвярозым стане ў грамадскіх месцах.

Зарэгістраваны выпадкі, калі чыгуначныя вакзалы становяцца месцам збору моладзі, што нярэдка суправаджаецца парушэннямі парадку. У гэтай сувязі бацькам і іх дзецям карысна ведаць, што існуюць абмежаванні, устаноўленыя выканаўчымі камітэтамі. Забараняецца з'яўленне непаўнагетніх на вакзалах, вуліцах, іншых грамадскіх месцах без суправаджэння дарослых пасля 22 гадзін, у час канікул — пасля 23-х.

Група аховы правапарадку Маладзечанскага АУС на транспарце.

■ РЭХА ПАДЗЕІ

## Спартзалу зачынілі

**ВІЛЕЙКА. Тыдзень таму рашэннем камісіі, у якую ўвайшлі прадстаўнікі Вілейскіх райвыканкама, упраўлення капітальнага будаўніцтва, аддзела адукацыі, райаддзела па надзвычайных сітуацыях, прыпынена эксплуатацыя спартзалы СШ №5.**

"У вобласці праводзіцца комплексная праверка будынкаў у сувязі з трагедыяй у Краснаполлі, — гаворыць інспектар дзяржнагляду пажарнага нагляду Вілейскага райаддзела па надзвычайных сітуацыях Алена Альфер. – Увага скіравана ў гэтыя дні на навучальныя ўстановы, пабудаваныя па аналагічным праекце. У нашым раёне да ліку такіх адносіцца Вілейская СШ №5, у спартыўнай зале якой выяўлены трэшчыны".

Дырэктар школы, з якім мы звязаліся па тэлефоне, зазначыў, што трэшчыны – не што іншае, як вынік асадкі, якую дае будынак школы, узведзены 5 гадоў таму. Ёсць яны не толькі ў спартыўнай зале, але і ў асобных класных пакоях і нават кабінеце дырэктара. "Наша навучальная ўстанова, — зазначыў Аляксандр Доўбышаў, — да ліку даўгабудаў, як краснапольская, не адносіцца. Узведзена згодна з праектам, апоры – жалезабетонныя. Аднак загад ёсць загад. Заняткі ў спартзале не праводзім".

Даць заключэнне аб бяспечнасці памяшкання і трываласці канструкцый можа спецыяльная экспертная камісія. Калі яна наведае школу, невядома.

Марына СЛІЖ.

## Абарані свой камп'ютэр

**МАЛАДЗЕЧНА. Пра новы паштовы вірус свет даведаўся ў ноч з 26 на 27 студзеня.**

За некалькі гадзін, паведамляе сайт Hoster.by, шкодная праграма Novarg (іншая назва MyDoom) паспела выклікаць глабальную эпідэмію, якая паразіла 300 тысяч камп'ютэраў ва ўсім свеце. Аналітыкі з антывіруснай "Лабараторыі Касперскага" мяркуюць, што радзіма віруса – Расія. Верагоднасць гэтага, на іх думку, перавышае 80%.

Novarg распаўсюджваецца праз Інтэрнэт як прымацаваны да лістоў файл. "Хворыя" лісты могуць мець 8 варыянтаў радка тэмы (напрыклад, Прывітанне, Тэст, Статус). Пастаянная прыкмета — памер дадатку каля 22 кБ. Часам вірус мае выгляд вернутага ліста, які не дайшоў да атрымальніка па нейкай прычыне. Каб яе даведацца, карыстальніку прапануюць прачытаць укладзенае паведамленне. Так камп'ютэр "падхоплівае хваробу".

З гэтага моманту аўтары вірусу могуць кіраваць заражанай машынай і з яе дапамогай чытаць чужую пошту, красці праграмы, усталёўваць іх, знішчаць, рассылаць копіі вірусу. «Акрамя таго, — паведамляе сайт TUT.BY, — як і планавалася, раніцай 1 лютага праграма Novarg наладзіла атаку на сайт кампаніі SCO». З усіх заражаных камп'ютэраў пасыпалася вялікая колькасць фальшывых запытаў, у выніку чаго сайт мог спыніць работу. Спецыялісты SCO вырашылі на ўсякі выпадак адключыцца. Хутка, мяркуюць спецыялісты, падобная атака чакае сайт Майкрасофт. Гэтыя кампаніі абяцаюць выплаціць па 250 тысяч долараў любому, хто дасць праўдзівую інфармацыю пра стваральнікаў вірусу.

Маладзечанскія інтэрнэт-цэнтры Novarg пакуль што не паразіў. «Вірус разлічаны на людзей, якія бяздумна раскрываюць прымацаваныя файлы, — сказаў у інтэрв'ю «РГ» Артур Лапкін, адміністратар інтэрнэт-цэнтра гарадской бібліятэкі. — Да нас прыходзяць небяспечныя адпраўленні, але мы іх не адкрываем». У іншых клубах горада, якія аказваюць інтэрнэт-паслугі, сказалі, што ў сваіх электронных скрынках вірус пакуль што не бачылі. Усе адміністратары запэўнілі, што на іх камп'ютэрах усталяваныя самыя апошнія антывірусныя праграмы.

Святлана ЦІШКО.

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

## Без дакументаў

**МАЛАДЗЕЧНА. На аўтадарозе Мінск-Нарач затрымалі вадзіцеля «ФВ-транзіт» са Смаргоні, які перавозіў 8 тэлевізараў без належна афармленых дакументаў.**

Справу перадалі ў гаспадарчы суд па Мінскай вобласці. Тэлевізары канфіскуюць.

## «Пасябравалі»

**МАЛАДЗЕЧНА. Двое мужчын і жанчына абрабавалі сваіх «сяброў».**

Гэта адбылося падчас гулянкі ў адной з кватэр па Вялікім Гасцінцы, 121. Да шумнай кампаніі, якая распівала спіртныя напоі, далучыліся тры незнаёмцы — 2 мужчыны і жанчына. Урэшце яны «пасябравалі», пасля пабіліся, паздымалі ланцужкі. Зладзеяў затрымалі. Узбуджана крымінальная справа.

## Фантазёрка

**МАЛАДЗЕЧНА. СМАРГОНЬ. Смаргонка схлусіла супрацоўнікам міліцыі, што ў яе ўкралі 600 долараў.**

Да гэтага яна пазычыла столькі грошай у адной маладзечанскай сям'і. Пасля прыехала ў Маладзечна, нібы аддаць пазыку, і прыдумала крадзеж – ніякіх грошай на самой справе яна не везла. Аб гэтым расказаў яе муж. Жанчына на 8-м месяцы цяжарнасці і ляжыць цяпер у бальніцы. Узбуджана крымінальная справа.

## Бальнічны крымінал

**МАЛАДЗЕЧНА. У адносінах да галоўнай доктаркі Радашкавіцкай бальніцы ўзбуджана ўжо другая крымінальная справа.**

Цяпер – за злоўжыванне службовымі паўнамоцтвамі. Афармляўшы аднаго з грамадзян на працу толькі на паперы, зрабіла так, каб за яго заработную плату атрымлівалі іншыя. Першую крымінальную справу прававахоўныя органы ўзбудзілі за крадзеж у 2001–2003 гадах 2 мільёнаў 160 тысяч рублёў.

## Дзяўчаты-зладзейкі

**МАЛАДЗЕЧНА. У бары «Магніт» у адной з наведвальніц выкралі сумачку, у якой была касметыка, 50 долараў, мабільны тэлефон.**

Зладзеямі аказаліся 16- і 17-гадовыя дзяўчаты. Абедзве стаяць на ўліку ў інспекцыі па справах непаўналетніх. Старэйшую арыштавалі.

Па зводцы гаррайаддзела ўнутраных спраў падрыхтавала Ірына РАБУШКА.

■ САЦЫЯЛЬНЫ СТАНДАРТ

# Звініць тэлефон

**СМАРГОНЬ. Часы, калі ў чарзе на атрыманне тэлефоннага нумара даводзілася стаяць дзесяткі гадоў, даўно прайшлі. Цяпер слова "Алё!" даносіцца амаль з кожнай гарадской кватэры.**

У 2003 годзе супрацоўнікі раённага вузла электрасувязі правялі вялікую работу па тэлефанізацыі насельніцтва Смаргоншчыны. На працягу мінулага года ўсталявана новая электронная АТС у Вішнеўскім сельсавеце на 400 нумароў (да гэтага было 200 нумароў). На 50 уладальнікаў тэлефонных нумароў стала больш і ў вёсцы Сасноўка, дзе пашырылі аб'ём мясцовай АТС. У мікрараёне Усходні замянілі састарэлае абсталяванне на больш сучаснае колькасцю 1200 тэлефонных нумароў. Усяго за 2003 год у горадзе было ўсталявана 230 новых тэлефонных нумароў. У 2004 годзе спецыялісты Смаргонскага РВЭС плануюць пашырыць аб'ём цэнтральнай АТС да 2000 нумароў.

На сённяшні дзень у раённым вузле сувязі зарэгістравана 16525 уладальнікаў тэлефонных апаратаў, падключаных да сеткі Мінсувязі Беларусі. З іх 12886 — жыхары горада, 3639 — вяскоўцы. Для параўнання: у пачатку 2003 года гэтая лічба складала 16134 тэлефонныя апараты.

Сёння шмат гавораць па сацыяльныя стандарты, зацверджаныя ўрадам краіны ў мінулым годзе. У гэтым дакуменце ёсць асобны пункт, прысвечаны сродкам сувязі. У Смаргонскім вузле сувязі сцвярджаюць, што сацстандарты па сувязі выконваюць: на ўсіх жыхароў раёна (каля 60000 чалавек) у мінулым годзе прыходзілася 59 таксафонаў пры норме адзін таксафон на тысячу чалавек.

Ірына ЛУГІНА.




**У Смаргоні і раёне працуе 59 таксафонаў. На 1000 чалавек прыходзіцца прыкладна 1 таксафон, што адпавядае сацыяльным стандартам краіны.**

Фота ByMedia.Net

■ ЗНАЁМЦЕСЯ — КІЯСКЁР

# Гэта першы

**МАЛАДЗЕЧНА. Кіёск №1 стаіць на вакзале. У ім працуюць Валянціна Шкода, Ларыса Цыкунова і Наталля Смалеўская. Яны разам ужо каля 5 гадоў. За гэты час ні разу не сварыліся. Кажуць, таму што разам адпачываюць на прыродзе. І тры разы на год, у дзень нараджэння кожнай, дазваляюць сабе наладзіць «дзявочнік» — адпачынак у кавярні.**



**Наталля Смалеўская, Валянціна Шкода і Ларыса Цыкунова працуюць у маладзечанскім газетным кіёску №1, што на чыгуначным вакзале.**

Фота Святланы ЦІШКО.

### Валянціна

Хутка будзе 6 гадоў, як яна перайшла ў «Белсаюздрук». А да гэтага доўгі час працавала ў гандлі. Была нават загадчыцай магазіна, але яго прадалі з аўкцыёну. «Былі хлеб, малако, а цяпер — газеты, цыгарэты, — кажа яна. — Але не шкадую аб пераходзе: тут весела».

Валянціна любіць выходзіць на работу ў першую змену, хоць гэта і вельмі рана: кіёск адчыняецца ў 6 гадзін. На пытанне, ці не страшна ў кіёску гадзін у 9-10 вечара, яна адказала: «Усяк бывае. Каля «Феніксa» (суседні магазін, што працуе кругласутачна) як пачнуць вытвараць пакупнікі... Але ж я зачыняюся. Так што найгоршае, што могуць зрабіць, — пабіць шкло. А ісці дадому позна не даводзіцца: мая «палавіна» — залаты чалавек, шануе, на машыне забірае».

Найлепшыя пакупнікі, на думку Валянціны, тыя людзі, якія ведаюць, што хочуць купіць, і тыя, якім прапануеш тавар, а яны не адмаўляюцца. Звычайна гэта мужчыны. А вось маладыя хлопцы гадоў 15, якім няма чаго рабіць, прыходзяць і просяць: «Дайце паглядзець...». Нічога, як правіла, не купляюць. Такіх пакупнікоў Валянціна пазнае адразу. Не вельмі любіць, але дае тое выданне, якое яны просяць.

Валянціна любіць кветкі, вырошчвае іх: нарцысы, півоні. Ружы, на яе думку, вельмі далікатныя, таму імі не займаецца. Яшчэ яна любіць сваіх унукаў, спакой і згоду ў сям'і, а таксама прымаць гасцей. І ўвогуле лічыць: было б здароўе — усё на свеце можна палюбіць.

### Ларыса

Ларыса Цыкунова прыехала ў Маладзечна з Гомеля 12 гадоў таму. І ўжо 7 з паловай гадоў працуе ў «Белсаюздруку»: аднойчы прыйшла падмяніць кіяскёра і засталася. Пасля Гомеля Маладзечна здаецца ёй вельмі маленькім, але прывыкла да горада, да людзей. І яе ўжо шмат хто ведае: калі адпачывала ў санаторыі «Лётцы», да яе падышла жанчына і сказала: «Вы, напэўна, з Маладзечна? У кіёску на вакзале працуеце?».

Ларыса, як і Валянціна, таксама любіць кветкі, але вырошчвае іх дома, на падаконніку. Умее пячы пірагі (з начынкай і без) і лічыць, што лепш выпякаць, чым варыць ежу. Таксама любіць вясёлыя кампаніі. «Але бывае, — кажа яна, — што людзей многа, а сярод іх адзінока. Лепш, калі ўсіх у кампаніі добра ведаеш».

Пра іншае месца працы яна не марыць, кажа, што работа кіяскёра падабаецца. Хоць і цяжка даводзіцца: калі яна збіраецца ў першую змену, аўтобусы яшчэ не ходзяць. Раніцай зімой цёмна, таму ісці на вакзал пешшу страшнавата.

У вольную хвілінку Ларыса чытае газеты. «Я і не ведала, што існуе столькі газет, — кажа яна. — Бацька дома выпісваў «Труд», «Известия» і «Правду».

### Наталля

Наталлю Смалеўскую яе калегі называюць чалавекам, які ідзе наперад. Напэўна, за энергічнасць. Яна раней працавала на заводзе «Спадарожнік» кантралёрам, правярала якасць радыёпрадукцыі. Затым быў дэкрэтны адпачынак, а пасля яго стала кіяскёрам.

Наталля любіць рамантыку, добрую доўгую асветленую дарогу і чысты лес. Прыгажосць, на яе думку, — гэта ўзыход сонца, дарога ў парку, засыпаная лісцем, і расцвітанне падснежніка. А самае страшнае ў жыцці — здрада і смерць, страта блізкага чалавека. Наталлі падабаюцца сумленныя, незайздрослівыя людзі. А пакупнікі — пастаянныя. На пытанне, з якімі праблемамі сутыкаюцца на рабоце кіяскёры, яна адказала: «Праблема — калі пакупнік не ведае, чаго хоча».

Галоўная радасць і надзея ў жыцці Наталлі — дачка, якая вучыцца ў школе-ліцэі.

Святлана ЦІШКО.

**Працягваем знаёміць нашых чытачоў з фрагментамі кнігі ўраджэнак Будслава Анелі Катковіч і Вэранікі Катковіч-Клентак «Успаміны». Нядаўна ў Польшчы выйшаў пераклад на польскую мову гэтай кнігі, які завецца «Ад Будслава да ГУЛАГа». Захоўваем правапіс арыгіналу. У гэтым нумары сваімі ўспамінамі дзеліцца Анеля Катковіч. Успаміны Вэранікі Катковіч-Клентак будуць друкавацца пасля ўспамінаў Анелі Катковіч. Поўны тэкст кнігі можна знайсці на сайце http://kamunikat.net.iig.pl.**




# Ад Будслава да ГУЛАГа

У школе адрозьнівалася я сярод вучняў вельмі прыгожым голасам. Сьпяваць я любіла й часта сьпявала на просьбу настаўніцы ці вучняў у час якіх-небудзь ручных работ. Сьпявала я і ў касьцельным хоры, разам з дарослымі й сваім бацькам. Брала самыя высокія ноты, арганіст ня мог надзівіцца. Спаткаўшы бацькоў, казаў: „Ну й пявуньня з вашай дачкі, што зь яе вырасьце!" Нічога ня вырасла, бо аднаго дня сарвала я свой голас. Усё-ж, будучы гімназісткай і студэнткай, сьпявала я яшчэ дзесяць гадоў у хоры Рыгора Шырмы. Але пра гэта пазьней будзе.

Калі я дайшла да шостай клясы пачатковай школы, на нашу сям'ю пасыпаліся розныя няшчасьці. Захварэў наш тата. Аднойчы адабрала яму мову. Вярнуўся з работы ні могучы прагаварыць ні слова. Пасьля прыйшоў да сябе. Зараз хутка прастудзіўся, памагаючы гасіць пажар у мястэчку, й захварэў на запаленьне лёгкіх. Як лёг у пасьцель, так больш і не падняўся. Хварэў больш года. Бяда запанавала ў нашай хаце. Палову дому ад вуліцы занялі кватаранты, а мы ўсёй сям'ёй — разам сем асоб — памясьціліся ў кухні. У ёй стаяла вялікая печ, вёдры з вадой, цэбар з пойлам для кароў, стол, шафа, лава й ложак. Была ў нас тады толькі адна карова. Мы, дзеці, спалі на печы, мама на палку за печай, а тата на ложку. Мушу тут напісаць крыху больш пра нашага тату, які ў жыцьці бачыў многа гора. Будучы маладым хлопцам, быў узяты ў салдаты й пасланы на фронт ваяваць з Японцамі. Трапіў да іх у палон і сем гадоў прабыў у нявалі на Сахаліне. Вярнуўшыся дамоў, ажаніўся. Нядоўга пажылі спакойна. Выбухла І сусьветная вайна, й зноў пайшоў ваяваць. Калі супакоілася й мог жыць шчасьліва, прывязалася хвароба. Зразумела, што палон і вайна здароў'я не дадалі. Меў бацька слабыя ныркі й сэрца. І так залёгшы пасьля пажару, хварэў год цэлы, а мы мусілі глядзець на ягоныя мукі. Вельмі кепска было з татам апошні месяц перад сьмерцяй. Апухлі ногі й жывот — пухліна йшла шторaз далей і далей. На ратунак не было надзеі, а на лячэньне не было грошай. Ляжаў тата й мучыўся. Помню, як пазваў да сябе тата малога Франка й запытаўся, ці будзе яго помніць, і заліўся горкімі сьлязамі. На першы дзень Вялікадня, 31 сакавіка 1929 года, калі званілі касьцельныя званы на рэзурэкцыю, памёр наш тата. Мама, якая цэлую ноч пры ім сядзела, адыйшла была на хвіліну, каб прылегчы, і не была пры кананьні. У гэтай хвіліне былі пры тату цётка Гэлька — татава сястра, цётка Юстына і дзядзя Адольф — татаў брат. Мама падняла галаву, глянула вачыма непрытомнымі ад стомы й далей працягвала спаць, не ўяўляючы сабе, што ў хаце робіцца. Мы, дзеці, таксама спалі на печы й нічога ня чулі.

На трэці дзень Вялікадня тату пахавалі, а мы асталіся адны з неапісаным болем у сэрцы. Мне вельмі хацелася тады ўбачыць хаця-б у сьне свайго тату. Вось аднаго вечара я ўкленчыла й пачала горача маліцца, каб паказаўся мне тата ў сьне. Бог выслухаў маю малітву. Гэтай ночы прыйшоў да мяне тата й сказаў: „Ты хацела мяне ўбачыць, дык я й прыйшоў да цябе..." Бачыла тады тату так выразна, і калі абудзілася, здавалася, што яшчэ яго бачу.

Асталася бязрадная мама й пяцёра малых дзяцей. Было тады маме 37 гадоў. Ня мела наша мама саладкага жыцьця ад сваіх дзіцячых гадоў. Калі мая мама мела паўтара года, памерла яе матка, наша бабуля Паўліна з дому Лаеўская. Ва ўзросьце 12 гадоў расталася навекі са сваім бацькам Зыгмунтам Мядзёлкам. Заапекаваўся тады ёю старэйшы брат Вінцэнты, які быў жанаты й меў дачку Паўліну. З Паўлінкай жыла мая мама, як зь сястрой роднай, і пазьней нам заўсёды пра яе расказвала. Паўліна Мядзёлка была вельмі здольная й разумная. Мамiны расказы пра яе рабілі на нас уражаньне. Пачала я марыць, каб быць такой, як Паўлінка, каб так, як і яна, далей вучыцца... Ад брата Вінцэнты забрала маму цётка Кулакоўская, якая жыла ў Рагачэве. Мама туды пераехала й прабывала там аж да сьмерці цёткі, а памерла яна ад рака. Мама ёю апекавалася й мусела глядзець яе цярпеньні. У 1910 г. прыехала мама ў Будслаў і тут выйшла замуж.

Тры месяцы пасьля сьмерці таты захварэла наша мама. Было гэта цёплым летам. Аднэй ночы будзіць мяне мама й просіць, каб яе прыкрыць цяплей, бо вельмі ж ёй холадна. Трэслася ўся страшэнна, прыкрыла я яе, а мама далей трасецца й жаліцца, што вельмі нага баліць. Гляджу я на маму, а яна як агонь гарачая. Як толькі разьвіднелася, пабегла я да цёткі Гэлькі й расказала пра ўсё. Прыйшла цёця, прыбегла суседка Бэрчыха, у якой памёр сын ад запаленьня крыві, пазвалі доктара й рашылі завезьці маму ў шпіталь у Вялейку — аддаленую 70 км ад нашага мястэчка.

Анеля КАТКОВІЧ.

Працяг будзе.

■ КОНКУРС

# Выйграй прыз ад 1-й акумулятарнай

**Конкурс, які "РГ" праводзіць разам з 1-й акумулятарнай кампаніяй, вітае прыхільнікаў аўтамабільнага свету! Жадаем спраўнага акумулятара, масла ў норме, роўнай і сухой дарогі.**

Месяц таму мы прапанавалі з трох варыянтаў адказу выбраць правільны. Пытанне было наступным:

Калі пры замене маторнага масла вы заўважылі, што масла, якое вы злілі, мае колер кавы з малаком, гэта азначае,

А) масла закіпела,

Б) у масла патрапіла вада,

В) масла перамерзла.

Правільны адказ (у масла патрапіла вада) быў у допісах мінчаніна Уладзіміра Лапшы, куранчанкі Наталлі Полаз, Уладзіміра Сергіевіча з Трапалава на Маладзечаншчыне, віляйчан Аляксандра Вярбіцкага, Міхаіла Андрашчука, Насці Крачкоўскай, Сяргея Петуха, маладзечанцаў Валянціны Данілевіч, Андрэя Андрашчука, Т.Праўлоцкай, Кацярыны Сушко, Віталя Шпілеўскага, Яфіма Гольдберга, Паўла Шэлега, Алесі Апяцёнак, Ірыны Шпілеўскай, Тамары Камінскай, Сяргея Салгалава, Анатоля Шпілеўскага.

Жэрабя, разыгранае сярод іх, выпала на Яфіма Голдберга, якому і дастаецца каністра высакаякаснага маторнага масла ад 1-й акумулятарнай кампаніі. Просім пераможцу зайсці ў рэдакцыю па прыз.



Пераможца мінулага туру конкурсу Ларыса Сергіевіч з Трапалава на Маладзечаншчыне з прызам – каністрай высакаякаснага маторнага масла "ТНК" ад 1-й акумулятарнай кампаніі. Фота Марыны СЛІЖ..

## Адкажыце на пытанне

**Першым у Савецкім Саюзе масавым легкавым аўтамабілем з паветраным ахаладжаннем рухавіка быў:**

**А) "ЗАЗ-965",**

**Б) "НАМИ-1",**

**В) "ЛУАЗ–969".**

Выберыце з трох адказаў правільны і дашліце яго на паштоўцы на адрас рэдакцыі. Тэрмін прыёму іх – да 25 лютага. Вынікі чарговага туру будуць апублікаваныя ў наступным выпуску "Аўта–мота" ў першым нумары сакавіка.

**Мікола ГАЙДУК.**

■ АЎТАЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ




# Малышок «Ока»

**Невялічкі аўтамабіль «Ока» ўпершыню з'явіўся на дарогах Савецкага Саюза паўтара дзесятка гадоў таму. Сёння выпускаецца заводам малалітражных аўтамабіляў (ЗМА) у Набярэжных Чаўнах, Камскім аўтазаводам, а таксама Серпухаўскім аўтамабільным заводам "СеАЗ".**

Завод у Серпухаве заўсёды выпускаў мотакаляскі для інвалідаў. У пачатку 80–х гэта прадпрыемства ўступіла ў новы перыяд свайго развіцця: пачалі распрацоўваць прататып новага аўтамабіля, які і атрымаў пазней назву "Ока". Пачатак гэтаму паклаў загад Міністра аўтамабільнай прамысловасці СССР Палякова ў 1982 годзе. Загад прадпісваў маладзёжным калектывам Волжскага і Камскага аўтазаводаў, а таксама тады Серпухаўскага мотазавода распрацаваць канструкцыю аўтамабіля асабліва малога класа.

Вытворчасць сілавых агрэгатаў і прыводаў пярэдніх колаў даручаецца ВАЗу, вытворчасць вузлоў шасі і буйной штампоўкі – КАМАЗу.

Невялікі аўтамабіль "Ока" мае салон, які ўмяшчае 4 пасажыраў. Дзякуючы магутнаму для сваіх памераў рухавіку і маленькім габарытам, ён мае рэпутацыю неблагога гарадскога аўтамабіля, здольнага развярнуцца на "пятачку".

Салон аўтамабіля "Ока" універсальны. Задняе сядзенне складваецца і атрымліваецца адсек для грузаў.

www.oka.ru

### Тэхнічныя характарыстыкі

| | |
|---|---|
| **Агульныя параметры** | |
| Колькасць месцаў/дзвярэй | 4/3 |
| Даўжыня, мм | 3200 |
| Шырыня, мм | 1420 |
| Вышыня, мм | 1400 |
| Колькасць месцаў пры складзеным заднім сядзенні | 2 |
| Карысная маса, кг: | 340 |
| Маса перавозімага грузу, кг: | |
| пры вадзіцелі і трох пасажырах | 40 |
| пры вадзіцелі і пасажыры | 190 |
| Маса поўнасцю запраўленага і снаражанага (але без карыснай нагрузкі) аўтамабіля, кг | 645 |
| Прасвет аўтамабіля з поўнай масай пры статычным радыусе шын 237 мм, не менш, мм: | |
| да падрамніка | 150 |
| да паддона картэра | 170 |
| Знешні найменшы радыус павароту па восі следу пярэдняга кола, не больш, м. | 4,6 |
| Максімальная хуткасць, км/гадз.: | |
| з поўнай масай | 130 |
| з вадзіцелем і адным пасажырам | 135 |
| Час разгону з месца з пераключэннем перадач да хуткасці 100 км/гадз., з: | |
| поўнай масай | 24 |
| вадзіцелем і адным пасажырам | 20 |
| Максімальны пад'ём, які пераадольвае аўтамабіль з поўнай масай, на ўчастку сухой роўнай і цвёрдай глебы без разгону на першай перадачы, % | 30 |
| Тармазны шлях аўтамабіля з найбольшай нагрузкай з хуткасцю 80 км/гадз. на гарызантальным ўчастку роўнай асфальтаванай шашы, не больш, м: | |
| пры выкарыстанні рабочай тармазной сістэмы | 43,2 |
| пры выкарыстанні аднаго з контураў рабочай сістэмы | 93,3 |
| Расход (горад), л/100 км | 6,4 |
| **Рухавік** | |
| мадэль | ВАЗ-1113 |
| тып | чатырохтактны, бензінавы, карбюратарны |
| колькасць і размяшчэнне цыліндраў | 2, у рад |
| дыяметр цыліндра і ход поршня, мм | 82x71 |
| рабочы аб'ём, л | 0,749 |
| ступень сціскання | 9,9 |
| намінальная магутнасць, кВт (к.с.) | 24,3 (33) |
| максімальны момант кручэння, Н.м(кгс. м) | 50 (5,1) |
| **Кузаў** | |
| мадэль | ВАЗ-1111 |
| тып | цэльнаметалічны, трохдзверны, нясучы |

■ ПРАГРЭС

## Святлодыёды прапісваюцца ў аўтамабілях

**Тэхнічны прагрэс адмяніць немагчыма, і гэта па меншай меры азначае, што святлодыёды абавязкова заменяць традыцыйныя лямпы напальвання. Бо перавагі першых аспрэчыць нельга: эканамічнасць, чысціня спектра і вялізны рэсурс. Усё гэта тычыцца і аўтамабіляў.**

Выцясненне традыцыйных лямпаў пачалося ўжо. Хаця і не з таго боку – першнаперш аўтамабілісты кінуліся мяняць габарытныя лямпы на сінія. Відны яны блага, затое прыгожыя. Гэта зачароўвае. Калі паставіць у габарыты святлодыёды белага колеру, можна смела пакідаць машыну з уключанымі агнямі хоць на ўсю ноч, хоць на тыдзень. Батарэя не разрадзіцца. Лепш ставіць матавыя лямпы, з рассеяным святлом.

Сапраўды бязмежная прастора для святлавой творчасці можа быць у салоне. Цьмянае штатнае падсвятленне прыборнай панэлі можна вельмі проста зрабіць падобнай на самую сучасную, замяніўшы лямпы на святлодыёды. З сінімі атрымаецца як у Volkswagen, з аранжавымі – як у Audi.

Так можна суцешыць не толькі эстэтычнае пачуццё, але і пазбавіцца ад неабходнасці здымаць панэль прыбораў, каб замяніць лямпачку, што перагарэла. Эканамічныя на энэргію святлодыёдныя лямпы падаравалі нам магчымасць гадзінамі чытаць у машыне. Мае сэнс паставіць прагрэсіўныя лямпы замест штатных на "паваротнікі" і "стоп" пры наяўнасці бясколерных рассейвальнікаў.

Спіс бязглуздых аксесуараў са святлодыёдамі таксама папоўніўся – калпачкамі на колы, што свецяцца. Прагныя да ўсяго яркага "сарокі", канешне, іх скруцяць (што няцяжка зрабіць), але хаця б адна эфектная паездка па горадзе атрымаецца. Вось якую забаву падарыла нам навука. Між іншым, кітайцы ўжо навастрыліся рабіць дыёдныя ёлачныя гірлянды. А чаго чакаць?

**Мікола ПЯТРОВІЧ.**

■ НАВІНЫ

# «Дзевяткі» выпускаюць у Запарожжы

**Запарожскі аўтамабільны завод на Украіне пачаў зборку вазаўскіх мадэляў 21093 і 21099. Прытым не "адвёртачную", як у Луцку, Херсоне, Крамяньчугу, а дробнавузлавую, якая ўключае зварку і афарбоўку кузава.**

План на 2004 год – 20 тысяч машын. Некаторыя з іх будуць камплектавацца па заказе пакупнікоў 1,3–літровым мелітопальскім рухавіком МеМЗ–3071 (64 конскія сілы, размеркаванае ўпырскаванне). Ён эканамічны: псеўдаседан ЗАЗ–1103 "Славута" расходуе з ім на 100 км 5,4 л бензіну пры хуткасці 90 км/гадз. Аналагічны сілавы агрэгат МеМЗ–307 (але 70–сільны) ЗАЗ устанаўлівае на сваім аўтамабілі "Сэнс". Апошні толькі гэтым і адрозніваецца ад карэйскага Daewoo Lanos.



ВАЗ-21099 цяпер вырабляюць на Украіне ў Запарожжы. Фота з архіва "РГ".

Цікавая сітуацыя: выпускаючы вазаўскія "дзевяткі", запарожцы ўмацоўваюць на ўкраінскім рынку пазіцыі свайго галоўнага канкурэнта. Ці не знізіцца продаж таго ж "Сэнса"? На ЗАЗе лічаць, што не. У эканоміцы Украіны за шмат год пачаўся уздым. Попыт на аўтамабілі ўзрастае. Сёлета ЗАЗ плануе вырабіць 120 тысяч аўтамабіляў – у пяць разоў больш, чым у 2002-м. Да таго ж "Сэнс" пры цане каля 6000 долараў відавочна больш камфартабельны за "дзевятку".

Адначасова з украінскімі "дзевяткамі" з'явілася ўкраінская Astra. Спецыялісты фірмы Opel згадзіліся, што запарожская дробнавузлавая зборка адпавядае іхнім патрабаванням.

www.za.ru

■ АБІТУРЫЕНТ-2004

# Тэст за дзверы не выставіш

**Кожны абітурыент сёлета абавязаны прайсці цэнтралізаванае тэсціраванне. Як гэтае рашэнне будзе выконвацца, тлумачыла на спецыяльным сходзе прадстаўнікоў гарадскіх школ, інтэрнатаў і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў, што адбыўся 14 студзеня, намеснік начальніка Маладзечанскага гарадскога аддзела адукацыі Клаўдзія Перхаровіч.**

На сённяшні дзень існуе 3 віды тэсціравання для тых, хто ў 2004 годзе жадае паступаць у ВНУ: добраахвотнае платнае, абавязковае бясплатнае і тэсціраванне ў ВНУ.

Абавязковае для ўсіх бясплатнае тэсціраванне па мове, беларускай або рускай. Здаваць абодва экзамены нельга. Вучні 11 класа і навучэнцы апошняга курса ПТВ і тэхнікумаў ужо сёння павінны вырашыць, які экзамен яны выберуць, і паведаміць сваё рашэнне адміністрацыі навучальнай установы. Тое ж тычыцца выпускнікоў папярэдніх гадоў, якія сёлета таксама хочуць паступаць. Маладзечанскія школы з 20 студзеня пачалі рэгістраваць сваіх былых вучняў і расказваць ім пра тэсціраванне. Моладзь, што нядаўна прыехала ў Маладзечна з іншых населеных пунктаў, звяртаецца ў сярэднюю школу свайго мікрараёна.

Каб пазбегнуць нечаканых непрыемнасцей, з 10 па 20 лютага абітурыентам варта зайсці ў прыёмную аддзела адукацыі і знайсці сваё прозвішча ў спісе.



Кожнаму абітурыенту давядзецца сёлета прайсці цэнтралізаванае тэсціраванне. Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА.

Экзамен па беларускай мове пройдзе 30 мая, па рускай – 6 чэрвеня. Хутчэй за ўсё давядзецца ехаць у Мінск. Калі ахвотных збярэцца вельмі многа, упраўленне адукацыі, магчыма, наладзіць міжрэгіянальнае тэсціраванне ў Маладзечне.

Абітурыенты, якія ў дзень экзамену хварэлі або трапілі ў непрадбачаную сітуацыю, маюць яшчэ адзін шанс пратэсціравацца – 13 чэрвеня (абедзве мовы). Але давядзецца паказаць дакумент, які пацвердзіць, што прычына адсутнасці была ўважлівай.

Іншай формы экзамену па мове няма, толькі тэсціраванне. Яго вынікі абавязкова будуць улічвацца пры паступленні на любую спецыяльнасць, нават у тэхнічных ВНУ. Хто не пройдзе тэсціраванне да 13 чэрвеня – паступаць у ВНУ ў 2004 годзе не зможа.

Добраахвотнае тэсціраванне можна прайсці па замежнай мове (3 красавіка), хіміі (4 красавіка), фізіцы (10 красавіка), біялогіі (17 красавіка), матэматыцы (18 красавіка). Яно каштуе каля 10 умоўных адзінак, і кожная ВНУ праводзіць яго самастойна.

## Ціха! Ідзе экзамен

На экзамене абітурыентам выдаюць два бланкі: адзін з заданнем, другі — для адказаў. На бланках ёсць узоры напісання літар і лічбаў. Для запісу адказаў лепш выкарыстоўваць чорную гелевую ці капілярную ручку. Шарыкавай ручкай давядзецца двойчы-тройчы абводзіць лініі: інакш пры аўтаматызаванай апрацоўцы адказ можа не прачытацца.

Тэсты прапануюцца пяці ўзроўняў складанасці: на 1-2 балы, на 3-5 балаў і гэтак далей па дзесяцібальнай сістэме ацэнкі ведаў. У заданнях можа быць адзін, два і больш правільных адказаў – усе іх трэба адзначыць.

Тэсціраванне па рускай і беларускай мове доўжыцца 110 хвілін, па хіміі, замежнай мове і біялогіі — 120 хвілін, па матэматыцы — 135 хвілін, па фізіцы — 180 хвілін. Прыносіць з сабой пейджары, мабільныя тэлефоны і іншыя тэхнічныя сродкі забаронена. На экзамене па матэматыцы і фізіцы можна карыстацца калькулятарамі без электронных нататнікаў.

Праз два тыдні пасля экзамену вынікі ўжо вядомыя. Спісы абітурыентаў і балы, атрыманыя імі, трапляюць у аддзел адукацыі. Да 20 чэрвеня ўсе атрымаюць сертыфікаты па выніках тэсціравання, якія сапраўдныя да 30 снежня 2004 года. Прэтэндаваць на паступленне,- сказала на сходзе прадстаўнікоў навучальных устаноў горада Клаўдзія Перхаровіч, змогуць толькі тыя, хто атрымаў па дзесяцібальнай сістэме адзнакі 4 балы і вышэйшыя.

Пераздаць экзамен, нават калі яго вынікі вас не задавальняюць, можна толькі праз год.

**Святлана ЦІШКО.**

■ АРМІЯ

# Хочаш быць вайскоўцам?

**Афіцэрамі становяцца не толькі ў Ваеннай акадэміі Рэспублікі Беларусь, але і ў іншых навучальных установах нашай краіны.**

Пры Беларускім дзяржаўным універсітэце транспарту створаны ваенна-транспартны факультэт, дзе рыхтуюць кадравых афіцэраў. Для паступлення трэба здаць экзамены па беларускай або рускай мове на выбар, матэматыцы і фізіцы. На ваенным факультэце Беларускага дзяржаўнага універсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі вучацца на вайсковых інжынераў і атрымліваюць спецыяльнасць "Шматканальныя сістэмы тэлекамунікацый" або "Спецыяльныя сістэмы тэлекамунікацый". У Мінскім дзяржаўным вышэйшым каледжы рыхтуюць па спецыяльнасцях "Пад'ёмна-транспартныя, будаўнічыя, дарожныя машыны і абсталяванне" і "Тэхнічная эксплуатацыя авіяцыйнага абсталявання". Уступныя экзамены праводзяцца па фізпадрыхтоўцы, беларускай ці рускай мове і матэматыцы. Тэрмін навучання па сярэднім ўзроўні 2 гады і 10 месяцаў, па вышэйшым ўзроўні – 5,5 года. На вайсковых медыкаў вучацца на ваенна-медыцынскім факультэце Беларускага дзяржаўнага медыцынскага універсітэта. Уступныя экзамены праводзяцца па беларускай ці рускай мове, хіміі і біялогіі. Тэрмін навучання 6 гадоў.



Фота ByMedia.net.

У Ваеннай акадэміі Рэспублікі Беларусь, па словах галоўнага спецыяліста па спецыяльнай абароне Маладзечанскага раённага ваенкамата **Андрэя Машкова**, рыхтуюць афіцэраў больш чым па 30 спецыяльнасцях. Адпаведна і экзамены на кожную з іх крыху розняцца. Абавязковым сёлета з'яўляецца экзамен па мове, рускай або беларускай на выбар.

Абітурыентам, якія паступаюць не першы год або маюць сярэднюю спецыяльную адукацыю, варта паспяшацца: ваеннаабавязаныя могуць падаваць свае дакументы ў гэтыя навучальныя ўстановы толькі да 23 гадоў, хлопцы з ліку грамадзянскай моладзі – да 21 года.

Больш падрабязную інфармацыю ўсім зацікаўленым дадуць у райваенкамаце, тым больш што менавіта туды трэба падаваць заяву на паступленне.

**Святлана ЦІШКО.**

■ ПЕРАД ШКОЛАЙ

# Кракадзіл у акне

**МАЛАДЗЕЧНА. Што вы бачыце ў сваім акне? Здагадацца няцяжка: якую-небудзь пабудову, дарогу ці дрэвы. У маё ж акно пaглядае... кракадзіл. Прыкладна ў 5 метраў даўжынёй. І яшчэ 2 кіты і вялізная чарапаха.**

Чарадзейка-зіма асыпае нас белымі халоднымі пялёсткамі. Яны трапляюць нават на вяршыню самага вялізнага дрэва ў Маладзечне, куды наўрад ці дабярэцца чалавек. Але ж і нам з вамі штосьці перападае ад зімовай царыцы. Адным – ільдзінка ў вока, што ператварае іх у Кая, героя казкі Андэрсэна "Снежная каралева". Іншых – у маленькіх памочнікаў – добрых чараўнікоў, напрыклад, як выхаванцаў дзіцячага сада №29.

Яшчэ ўчора я клалася спаць і бачыла праз акно спальні звыклую карціну. А сёння вечарам мне ўсміхаецца кракадзіл. Так, гэта пастараліся садаўцы. Хлопчыкі і дзяўчынкі ў нейкі момант сталі сапраўднымі скульптарамі. Яны асвойвалі лепку ў вялікіх памерах. Дзецям цікава было адразу бачыць вынік сваёй работы. Спачатку выхавацелі расказалі дашкалятам, што бываюць не толькі хатнія жывёлы. Паказалі карцінкі дзікіх, экзатычных, рэдкіх... Да таго ж іх можна зрабіць уласнымі рукамі. Як і мае быць, хлопчыкі і дзяўчынкі пасля заняткаў узялі рыдлёўкі і пайшлі на вуліцу. Прыпыніліся каля сумётаў, акурат ля ганка садка. Хто прыносіў снег, хто, наадварот, адносіў, а хто пляскаў рыдлёўкай і далонямі. Урэшце, нехта з дзяцей сказаў:



Выхаванцы дзіцячага сада №29. Фота Ірыны РАБУШКІ.

— Гэта будзе нашая горка! Будзем на санках катацца!

Выхавацелі падышлі да снежнай "пабудовы", падладзілі.

— Кіт! Кіт! – адразу пазналі дзеці.

Хутка побач з'явіўся яшчэ адзін. Потым дзеці прапанавалі зрабіць чарапаху. Адзін з сумётаў быў вельмі падобны на яе, нібы зімовая чараўніца сама падказала. Заставалася толькі крыху падправіць.

І нарэшце – разлёгся кракадзіл. Садаўцы ніяк спачатку не маглі ўцяміць, дзе хвост, дзе галава.

Як усе снежныя справы скончыліся, узяліся за "фарбы" і "пэндзаль": сіньку, зялёнку і венік. Прыладзілі вочкі-бульбіны. Гатова!

На наступны дзень дзеці складалі пра сваіх новых "сяброў" казкі, чыталі ім вершы. Але кожную раніцу хлопчыкі і дзяўчынкі хвалююцца, што "сябры" растануць.

**Ірына РАБУШКА.**

■ ІМЁНЫ

# Акадэмік Адам Грымаць

**Грымаць Адам Антонавіч (17.10.1938, мястэчка Ілья – 8.11.2000, Мінск). Член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук, акадэмік Міжнароднай акмеалагічнай акадэміі, прафесар Беларускага дзяржаўнага педуніверсітэта імя Максіма Танка.**

Нарадзіўся ў сям'і простых местачкоўцаў. У 1955 годзе скончыў Ільянскую сярэднюю школу з залатым медалём. Затым філалагічны факультэт Мінскага педуніверсітэта імя Горкага (цяпер БДПУ ім Максіма Танка). Працаваў настаўнікам ў Швядоўскай васьмігодцы Вілейскага раёна, затым 5 гадоў дырэктарам Стражаўскай сярэдняй школы.

У 1967 годзе стаў аспірантам кафедры педагогікі Мінскага педінстытута. Ад 1975 года – дацэнт кафедры педагогікі Мінскага педінстытута. Праз два гады становіцца дэканам факультэта павышэння кваліфікацыі дырэктараў школ, затым – прарэктарам па вучэбнай рабоце. У 1990–х – загадчык кафедры педагогікі БДПУ імя Танка. Заслужаны работнік адукацыі Беларусі.

За плённую працу на працягу двух гадоў дацэнтам Вышэйшай педагагічнай школы ў Эрфурце (ГДР) узнагароджаны залатым медалём Г.Гердэра.

Прафесар Грымаць падрыхтаваў 30 аспірантаў, якія сталі кандыдатамі навук. Напісаў больш за 220 навуковых прац, надрукаваў у часопісах 157 артыкулаў, стаў аўтарам 5 вучэбных дапаможнікаў, 10 манаграфій, удзельнічаў у 43 міжнародных і 105 нацыянальных канферэнцыях.

Усё сваё жыццё Адам Грымаць падтрымліваў сувязь з настаўнікамі і вучнямі Ільянскай СШ. Ён стаяў ля вытокаў сучаснай сістэмы работы вышэйшай школы.



# Біяграфія пачыналася ў Ілы

**Першага верасня 1945 года. У гэты дзень за парту Ільянскай школы сеў маленькі Адась Грымаць. За ім на лаўцы грунтоўна ўладкаваўся Віця Буркевіч. Іншыя дзеці – Галя Кулеш, Пеця Шалуха, Тася Апанасёнак, Вера Крэнь – занялі свае месцы. Шмат першакласнікаў сабраў у школу той год – амаль 80 чалавек, і ўсе яны – дзеці вайны.**

Гэтым дзецям вельмі хацелася вучыцца. Школа іх вабіла. Усё было тут упершыню, усё незвычайна і нават крышачку страшнавата.

Педагогікі было чым заняцца, было што фарміраваць тут і найперш, канешне ж (што вельмі недарэчна), маральныя ідэалы "строителей коммунизма" – абстрактнае памкненне партыйных дагматаў. Да кардынальных пераменаў у краіне, да пачатку нашага сённяшняга нацыянальнага Адраджэння, да нашай незалежнасці было далёка.

А дзеці вайны тады ўсяго гэтага не маглі ведаць, як і шмат чаго яшчэ. Яны хацелі жыць і вучыцца ў школе – і толькі ўсяго. Каб людзьмі звацца.

Успамінае Віктар Буркевіч, чалавек сур'ёзны, адкрыты, ён любіць пагаварыць, паразважаць, па-бухгалтарску дакладна выказаць свае думкі:

– Памятаю, чаму ж не, – кажа ён. – Не ўсё, канешне. Вы пра Грымаця пытаецеся, дык нічым ён надта ад усіх нас не адрозніваўся, асабліва напачатку вучобы. Быў як усе дзеці. Вось толькі вучыўся ён лепей за ўсіх нас. Асабліва ў старэйшых класах – гэта праўда. Скончыў школу з залатым медалём. Вучыўся вельмі добра, таварыскі, гаваркі быў хлопец, любіў і ўмеў жартаваць, не ўмеў крыўдзіцца, сердаваць.

Многія спісвалі ў яго хатнія заданні, асабліва па матэматыцы. А ўмовы для вучобы тады былі вельмі дрэнныя. Не было падручнікаў, паперы – усяго самага неабходнага, нават крэйды. Будынак школы доўгі час не маглі адрамантаваць. Заняткі праводзіліся ў звычайных хатах, крыху прыстасаваных пад класы.



На адваротным баку здымка подпіс: "Фатаграфаваліся дня 27 ІІ 44 года Кацярына Іванаўна і Адам Антонавіч".

Фотаздымак са школьнага краязнаўчага музея ў Ільі.

Адась быў здольны да вучобы хлопец, меў добрую памяць, быў разважлівым. Тое, што ён стаў настаўнікам і вучоным, прафесарам, акадэмікам і напісаў столькі навуковых прац, – зусім не выпадкова і, канешне ж, няпроста ўсё гэта яму далося. Ён шмат працаваў.

Віктар Буркевіч узгадаў шмат чаго яшчэ, казаў і пра свае асабістыя поспехі ў школе, а пазней і ў галіне эканомікі на пасадзе начальніка планава-эканамічнага аддзела шклозавода "Залессе". Казаў і пра свае цяперашнія фінансавыя клопаты непрацуючага пенсіянера, пра нашы агульныя жыццёвыя недарэчнасці, якія – вынік нечага неўсвядомленага, супярэчлівага, адным словам, дыялектычнага.

Напэўна, зноў жа не ў той бок пайшла яна, гэта наша дыялектыка, улічваючы нашыя некалі няправільна сфарміраваныя яшчэ ў школе мізэрныя агульначалавечыя нормы маралі.

Чамусьці не хапіла многім з нас святла агульных ідэй, святла жаданняў, святла пазнання – гэтых асноўных крыніц узніклення маральных ідэалаў, аб якіх пісаў у сваіх навуковых працах Адам Грымаць.

Сапраўды, Адам Грымаць шмат пісаў аб фарміраванні маральных ідэалаў. Пісаў у сваёй кандыдацкай дысертацыі "Фарміраванне станоўчых маральных ідэалаў вучняў сярэдняга школьнага ўзросту (на ўроках беларускай літаратуры)". У сваіх артыкулах і манаграфіях.

У 2000 годзе выйшла з друку яго апошняе вялікае навуковае выданне "Фарміраванне маральных ідэалаў школьнікаў". У гэтай кнізе сапраўднае святло ідэй, мудрае святло Настаўніка, мудры спакой філосафа. Грымаць на практыцы пацвердзіў свой тэзіс, што дзейнасць чалавека ёсць сродак маральнага ўдасканалення асобы і крытэрый яго маральнай выхаванасці. Кніга акадэміка Грымаця для многіх можа стаць настольнай. Педагогіка атрымала ў свае рукі вельмі каштоўны дапаможнік.

8 лістапада 2000 года Адама Антонавіча не стала. Ён заўчасна памёр на 62–м годзе жыцця. Пахавалі Адама Грымаця на радзіме – мястэчковых могілках у Ільі.

Калектыў Ільянскай сярэдняй школы, дзе вучыўся будучы акадэмік, хадайнічае аб прысваенні ёй імя акадэміка А.А.Грымаця.

Усё пачынаецца з дзяцінства. У лютым 1944 года быў зроблены гэты цудоўны фотаздымак і так цудоўна падпісаны. На ім малы Адаська стаіць з ліхтарыкам на грудзях. Напэўна, гэта была яго любімая цацка, якая імгненна, па яго жаданні, давала сапраўднае святло. Сапраўдны цуд быў у руках тады яшчэ маленькага Асветніка.

**Уладзімір КАЖАМЯКА.**

■ КАЛЯНДАР

**9 лютага. У 1913 годзе ў Вільні ўпершыню была пастаўленая камедыя Янкі Купалы "Паўлінка".**



Паўліна Мядзёлка.

Паказ ажыццявіў Беларускі музычна-драматычны гурток. Адной з першых выканаўцаў галоўнай ролі – Паўлінкі – была ўраджэнка Будслава Паўліна Мядзёлка (1893–1974). Па сведчаннях сучаснікаў, менавіта іменем Паўліны Мядзёлкі Купала, які быў закаханы ў маладую Мядзёлку, была названая адна з самых вядомых паэмаў беларускіх камедый.

Паўліна Мядзёлка скончыла Вышэйшыя камерцыйныя курсы ў Пецярбургу (1914). Настаўнічала ў в. Жорнаўка на Ігуменшчыне, у Мядзведзічах паблізу Ляхавічаў, Мінску, Дзвінску (Даўгаўпілс), Горках, Маскве, Будславе. Арыштаваная ў 1919, 1920, 1924, 1930 г.г. Унесла значны ўклад у развіццё беларускага тэатра на стадыі яго станаўлення. Удзельніца Віленскага музычна-драматычнага гуртка, Першага беларускага таварыства драмы і камедыі. Пісала вершы, паэмы, аўтар успамінаў.

**Падрыхтаваў Мікола ГАЙДУК.**

■ МЕРКАВАННЕ ЧЫТАЧА

## Паштоўка

**МАЛАДЗЕЧНА. Захацелася мне аднойчы пасласць паштоўкі з краявідамі роднага горада сваякам у Польшчу і сябрам у Амерыку. А то яны прысылаюць краявіды сваіх гарадоў, а я ўсё ніяк. Ну, думаю, і мы не лыкам шытыя. Горад наш прыгожы, не сорамна і пахваліцца.**

Але ж якое расчараванне мяне чакала пасля тыдня пахаду па кніжных магазінах і кіёсках! Аказваецца, такіх паштовак няма ўжо гадоў 10, няма і набораў з краявідамі самых прыгожых і ўсімі любімых месцаў горада. Паштоўкі з краявідамі Мінска былі, але год ці два таму назад. Можа, акрамя мяне больш ніхто не жадае купіць? З такім пытаннем і звярнулася да прадаўцоў:

– Што вы? Шмат хто пытаецца, ужо стаміліся адказваць людзям, што не ведаем, калі будуць, – адказалі тыя.

Што ж, прыйдзецца фатаграфаваць самой. А шкада, прыгожая паштоўка, аддрукаваная прафесійна, была б добрай візітнай карткай майго любімага горада. А як думаеце вы?

**Наталля МІНОШЫНА.**

# Іх лёс вызначала Асобая нарада...

**Чытаю ў гісторыка-дакументальнай хроніцы Мядзельскага раёна "Памяць": "Асноўны дакумент, які дае ўяўленне пра колькасць рэпрэсіраваных у былой Вілейскай вобласці, — спіс асуджаных Асобай нарадай НКУС Вілейскай вобласці па стане на 25 снежня 1940 года. У ім 1603 чалавекі, чый лёс вырашыла праславутая "тройка".**

Спецаддзел Вілейскай абласной пракуратуры ў 1940 годзе разгледзеў 4705 следчых спраў на 5051 чалавека. Закончана было 4376 спраў, з якіх у Асобую нараду накіравана 4255 спраў, у абслуд – 17, у ваенныя трыбуналы – 3, спынена – 101 справа. Найбольшая колькасць асуджаных абвінавачвалася па арт. 74 Крымінальнага кодэкса БССР – 1888 чалавек".

У спісе "Вернутыя імёны" мядзельскай "Памяці" – прозвішчы 93 землякоў. Сярод іх – трое ўраджэнцаў мястэчка Будслаў. Усяго трое... Селянінаднаасобнік Сігізмунд Лубнеўскі, 1909 года нараджэння; участковы інспектар Крывіцкага раённага аддзела міліцыі НКУС, 1915 года нараджэння; і адна жанчына – сялянка-аднаасобніца Юзэфа Януковіч, 1927 года нараджэння.

І хаця межы да 1939 года стрымлівалі махавік рэпрэсійнага механізма ў дачыненні да жыхароў Віленшчыны, усё ж блукалі-вандравалі па краіне саветаў і будслаўцы. І іх не мінаў лёс астатніх савецкіх грамадзян. Не абмінуў гэтай бяды і будславец Мікола Іванавіч Герасімаў (нарадзіўся ў 1909 годзе). Па дакументах – рускі. Член ВКП (б). З 1931 па 1937 гады займаў пасаду начальніка паравозна-га дэпо на станцыі Кандалакша Кіраўскай чыгункі. Арыштавалі Міколу Герасімава 11 ліпеня 1937 года. Камісія НКУС і Пракуратура СССР 28 кастрычніка 1937 года вынесла прысуд па артыкулах 58-7, 9-11 Крымінальнага кодэкса РСФСР – "вышэйшая мера пакарання". Расстралялі будслаўца ў Ленінградзе 1 лістапада 1937 года. Сумны і тыповы лёс за савецкім часам.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

# Была такая каманда...

**Уладзімір Шувалаў**

Уладзімір Шувалаў – масквіч, 1920 года нараджэння, выступаў за маскоўскае і мінскае "Дынама", амплуа — нападаючы. Заканчваў кар'еру гульнявую і распачынаў трэнерскую ў Савецку. Гэта былы нямецкі горад Тыльзіт.

У маладзечанскі перыяд (з сярэдзіны 1960 года да пачатку 1963 года) вучыўся завочна ў трэнерскай школе ў Маскве. Адзінцоў тады "лічыўся" на паперы як гулец, але успаміне, што праводзіў з камандай перадсезонную падрыхтоўку, пакуль Шувалаў падоўгу знаходзіўся на сесіях.

Шувалаў з'ехаў паміж сезонамі-62 і -63: здаў зімою дзяржспісты і атрымаў прызначэнне ў каманду класа "Б". Ён паспяхова працаваў у Кіраве, Кемераве і Кіравабадзе, стаў заслужаным трэнерам і РСФСР, і Азербайджана. Пасля жыў у Днепрапятроўску, дзе апошнім часам займаўся з дзецьмі. Пайшоў з жыцця ў 90-х.



Урачыстае віншаванне чэмпіёнаў 1963 года на дамашнім стадыёне. Злева направа: Адзінцоў (па-за кадрам), Траскоўскі, Зайцаў, Бохан, Васаган, Саланенкаў, Юрынаў, Катоўскі, Максімаў, Шэлюх, Салагуб, Бёрдачкін, Сіроткін, В.Кандулінскі.

Фотаздымак з архіва Уладзіміра ВАСАГАНА.

Пад яго кіраўніцтвам у складзе "Спартака" з карэнных беларусаў замацаваліся нямногія. **Юрый Адзінцоў** (1934 г.н.; №4) дзейнічаў на розных пазіцыях. **Іван Траскоўскі** (1938; №11) знаходзіўся на астрыі атакі. Самага хуткага ў складзе **Золю Сіроткіна** (1937) ў 60-м годзе заўважылі ў камандзе Дзяржынска і адразу ж запрасілі. Зрэдку далучаўся **Аркадзь Салагуб** (1935).

З "Чырвонай зоркі", якую дагэтуль Шувалаў узначальваў, нападаць засталіся двое. **Альберт Зайцаў** (1937) абараняў вароты амаль без замен, што сведчыць аб высокай надзейнасці. **Юрый Саланенкаў** (1935; №9) баражыраваў па ўсім фронце нападзення.

З іншага калектыву Савецка, армейскага Дома афіцэраў, папаўненне было большым. Добры "персанальшчык" **Уладзімір Васаган** (1935, №2), жвавы, рухавы **Анатоль Шэлюх** (1936; №3, потым №7), **Яўген Катоўскі** (1938; №8), **Валерый Максімаў** (1938).

Некаторыя гульцы правялі ў "Спартаку" адзін-два сезоны і пакінулі каманду яшчэ да 1963 года, напрыклад, **Віктар Афанасьеў** і **Барыс Мураўскі**.

Неардынарныя асобы былі запрошаны з Дома афіцэраў (Чарняхоўск) таксама Калінінградскай вобласці. **Вячаслаў Бёрдачкін** (1938; №10) быў лідэрам каманды. Запомніўся нестандартнымі паступкамі нападаючы **Ісмаіл Садзердзінаў** (1938), які прапусціў 1963 год.

Паўабаронцы **Арнольд Бохан** (1941) і **Анатоль Бераснеў** (1939) разам вучыліся ў інстытуце фізкультуры, гулялі за СКІФ. Першы – родам з Маладзечна. Вярнуўся ў родны горад у 62-м, незабаве стаў лідэрам каманды, праз год прыцягнуў сюды партнёра, ураджэнца Браншчыны.

У 64-м гулялі варатары **Барыс Пятрушын** з Мінска і расіянін **Вячаслаў Сівакоў**.

Працяг будзе.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

## Цяжкасці дэсантніку – не перашкода

**МАЛАДЗЕЧНА. Вайскова-патрыятычны клуб «Юны дэсантнік» быў створаны пры прафкаме будаўнічага трэста №23 у 1987 годзе. Сярод заснавальнікаў — Міністэрства абароны і Добраахвотнае таварыства садзеяння арміі, авіяцыі і флоту. Дзейнічае гэты клуб і сёння.**

Яго, асноўная мэта — выхаванне моладзі і падлеткаў, падрыхтоўка будучых абаронцаў Айчыны да службы ў войску. У праграму падрыхтоўкі ўваходзіць рукапашны бой, традыцыйнае каратэ, арыентаванне на мясцовасці, стральба па мішэні, вядзенне блізкага бою. Таксама праводзіцца сустрэчы з воінамі-інтэрнацыяналістамі і былымі сябрамі клуба.

Наладжана супрацоўніцтва з інспекцыяй рыбнай аховы і аховы прыроды. Распрацаваны графікі рэйдаў па барацьбе з браканьерствам.



У клубе "Юны дэсантнік" займаюцца не толькі хлопцы, але і дзяўчаты.

Фота з архіва Анатоля КАЗЛОВА.

**Уладзімір Няхай, Раман і Дзмітрый Багдановічы, Сяргей Дубовік** і іншыя хлопцы, што займаліся ў клубе, ужо закончылі Ваенную акадэмію, Акадэмію МУС, сталі афіцэрамі. **Сяргей Грамілаў, Дзмітрый Вышыдкевіч** і **Сяргей Плотнікаў** неаднаразова падымаліся на п'едэстал гонару на міжнародных спаборніцтвах па рукапашнаму бою і каратэ. Чэмпіёнамі Беларусі па каратэ-до станавіліся **Антон Сяляўка, Аляксей Мігура** і **Андрэй Півавараў**.

Штогод ва ўрочышчы Чарчонава (Маладзечанскі раён) праводзіцца палатачны лагер. Будучыя воіны-дэсантнікі заступаюць у наряд і ахоўваюць вылучаны аб'ект, дзяжураць па лагеры і на пастах, вучацца вадзіць веласіпед і матацыкл. Начны марш-кідок правярае фізічную падрыхтаванасць і цягавітасць хлопцаў.

«Цікавасць падлеткаў да «Юнага дэсантніка», — лічыць кіраўнік гэтага клуба **Анатоль Казлоў**, — сведчыць аб тым, што навыкі, якія яны атрымліваюць тут, неабходны ім у жыцці».

**Святлана ЦІШКО.**

■ ФУТБОЛ, МІЖСЕЗОННЕ

## «Смаргонь» працуе

Пачалася сур'ёзная перадсезонная праца. На 7-га і 8-га намечаны ўдзел у турніры прадстаўнікоў Гродзеншчыны ў Шчучыне. Да 15-га каманда будзе дома, а потым збіраецца на двухтыднёвы збор у крымскую Алушту. Па вяртанні будуць дамашнія заняткі, і ў планах яшчэ адзін выязны збор.

У складзе ўжо няма варатароў Галаўнёва і Ганчарука, абаронцаў Жачко і Ганчарова, паўабаронцаў Грабазды, Мяца і Гірко. Цяпер на прагляде знаходзіцца некалькі прыезджых гульцоў, вядомых выступленнямі за каманды вышэйшай лігі, у тым ліку **Віктар Урублеўскі**, які летась гуляў у "Маладзечна-2000". Далучаецца моладзь – галоўны трэнер **Уладзімір Уткін** плануе даць юнакам сёлета шанс праявіць сябе.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

## Падарункі ад футбалістаў

**СМАРГОНЬ. Футбалісты вядомай у Беларусі каманды "Алімп" падарылі падчас свайго візіту ў Смаргонь выхаванцам школы-інтэрната камп'ютэр, сантэхніку, электраабсталяванне, канцылярскія тавары, футбольныя атрыбуты і шмат прысмакаў.**

Ініцыятар гэтага – **Юрый Антановіч**, выпускнік школы 1982 года. Сёння Юрый – футбаліст вядомай у нашай краіне каманды "Алімп".

Асаблівую радасць у дзяцей са школы-інтэрната выклікала трэніровачная форма, якую яны атрымалі на памяць ад знакамітага мінскага "Дынама". Закончылася сустрэча футбольным матчам паміж камандамі футбалістаў "Алімп" і школы-інтэрната.

**Ірына ЛУГІНА.**

## Стаў майстрам

**ВАЛОЖЫН.** Ганаровае званне майстра спорту прысвоена сяржанту контрактнай службы вайсковай часці Ігару Лоўчаму, пераможцу абласных і прызёру нацыянальных спаборніцтваў мінулага года па армрэслінгу.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

## Дзеля здароўя

**ВІЛЕЙКА. Ва ўрочышчы Дубаўка ў нядзелю прайшлі раённыя спаборніцтвы па лыжным спорце.**

Вялікай па колькасці камандай была прадстаўлена невялікая Забалацкая базавая школа, дзе дзеці шмат трэніраваліся перад раённай лыжнёй. Загадчык хірургічнага аддзялення Вілейскай раённай бальніцы **Мікалай Баўцюк** выйшаў на лыжню разам з жонкай **Святланай** і дачушкай **Ганначкай**. Яны былі адзначаны самай спартыўнай сям'ёй.

Балельшчыкі ўстанавілі сваю прызавую намінацыю – "Міс-лыжня-2004". Прыз ад гледачоў атрымала член аматарскага ордэна "ЛЕТА" **Алена Нарэйка**. Яна да таго ж узнагароджана і крыштальнай вазай ад раённага спорткамітэта, бо прыйшла да фінішу трэцяй.

**Марыя МІХАЙЛАВА.**

## Табло

■ **БАСКЕТБОЛ**

**Балтыйская ліга. Мінск.**

30.01. Беларусь (юніёркі) – Панттарыт (Фінляндыя) 81:68. **Рынкевіч** набрала 7 ачкоў, **Дурэйка** – 2.

01.02. Беларусь – Эспа (Фінляндыя) 75:73. **Рынкевіч** – 16, **Дурэйка** – 4.

Пасля 12 матчаў зборная мае 4 перамогі і дзеліць 11-12 месцы сярод 16 каманд.

■ **ЛЫЖНЫЯ ГОНКІ**

**МЯДЗЕЛ. Выхаванцы ДЮСШ прымалі ўдзел у Алімпійскіх днях моладзі.**

Абласныя старты ў Барысаве 26-27 студзеня сабралі калектывы 7 раёнаў. Мядзельцы сталі ў агульным заліку другімі. На асобных дыстанцыях перамаглі **Аляксандр Зубар** (двойчы) і **Яўген Царашкевіч**. У прызёры трапілі **Вольга Зубар, Уладзімір Ільяш** і **Аляксандра Жаўнова**. Праз тры дні на рэспубліканскіх спаборніцтвах у Навагрудку найлепшы вынік паказала Вольга Зубар – пятае месца на 7,5 км свабодным стылем.

■ **ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА**

**Спартакіяда спартыўных школ па двух узростах. Віцебск. 26-31 студзеня.**

Смаргонец Дзяніс Краўчук у хадзе перамог на дыстанцыі 5 км і стаў другім на 3 км. Маладзечанец **Дзмітрый Жыжка** быў другім у скачках у вышыню. Трэція месцы занялі смаргонцы **Пётр Гіль** (400 м і трайны скачок) і **Юрый Рыжэвіч** (60 м).

**Першынство краіны па мнагаборствах. Мінск. 27-28 студзеня.**

Маладзечанка **Марыя Крук** заняла другое месца сярод удзельнікаў 1987-88 г.н.

**Міжнародны турнір па трох узростах. Сумы (Украіна). 24-25 студзеня.**

Выхаванцы смаргонскай СДЮШАР занялі шмат першых месцаў: **Дзмітрый Граматоўскі** (800 м і 1500 м), **Вікторыя Радчук** (200 м), **Дзяніс Краўчук** (хада 3 км), **Дзяніс Ахрэм** (60 м), **Пётр Гіль** (400 м).

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

# ВІНШАВАНКІ

**Галіну Вікенцьеўну Урманавічыус** віншуем з днём нараджэння. Жадаем табе і родным моцнага здароўя, шчасця і поспехаў. *Калегі.*

**Аляксандра Васільевіча Зязюлю** віншуем з днём нараджэння! Здароўя табе, шчасця і хутчэй завяршай будаўніцтва дома. *Сям'я Трацякоў.*

**Машу Калягу** з Вілейкі віншуем з днём нараджэння! Жадаем здароўя, шчасця, грошай, верных сяброў. *Твае сяброўкі.*

**Вольгу Дарафееву** віншую з днём нараджэння! Шчасця, кахання, спагадлівых людзей на тваім шляху. *Твая сяброўка Гэнна.*

**Дануту Станіславаўну Мамай**! З днём нараджэння, паважаны настаўнік. Здароўя, сямейнага дабрабыту. *Ваша вучаніца Ганна Чараповіч.*

**Вераніку Тапуць** віншую з днём нараджэння! Жадаю моцнага здароўя, выдатнай вучобы, спаўнення ўсіх жаданняў. *Дзядзька Валодзя.*

**Тамару Дрозд** і **Алену Дурко** віншуем з днём нараджэння! Жадаем шчасця, здароўя. *Калектыў амбулаторыі.*

**Марыну Сіляўку** віншую з днём нараджэння! Здароўя, багацця, кахання, сямейнага шчасця і здароўя дзеткам. *Рэгіна.*

**Наталлю Вінаградаву** віншую з днём Анёла! Здароўя, удачы, поспехаў заўсёды і ва ўсім. *Рэгіна.*

**Алену Раманіну** віншую з днём нараджэння! Жадаю шчасця, кахання і дабрабыту. *Рэгіна.*

**Веру Уладзіміраўну Ахрэм** віншуем з 50-годдзем! Жадаем здароўя, шчасця, поспеху, сямейнага дабрабыту. *Супрацоўнікі бухгалтэрыі ОМ РУП "Зеніт".*

**Дзяніса Кажарновіча** віншуем з 25-годдзем. Здароўя, шчасця, удачы. *Сям'я Каркоцкіх.*



**Тата**, мы цябе сардэчна віншуем з днём нараджэння і жадаем дабра найлепшага, здароўя, усмешак і поспехаў. *Сям'я Каркоцкіх.*

Маладзечанскі клуб "Пілігрым" віншуе з днём нараджэння **Аляксея Семяняку**. Жадае моцнага здароўя, шмат грошай і цікавых паходаў.

**Лідзію Пахомаўну Максімовіч** віншуем з днём нараджэння! Жадаем здароўя, шчасця, Божага бласлаўлення. *Дачка, зяць, унукі.*

**Валянцін Казіміравіч Карынеўскі**! З юбілеем, 60-годдзем! Моцнага здароўя, душэўнага цяпла, шмат грошай. *Сям'я Чараповіч.*



■ КОНКУРСЫ

## Прыз – відэакасета

**Добры дзень, шаноўныя сябры! Сёння мы падводзім вынікі другога "Загадкавага слова".**

Прыемна, што ў конкурсе прыняло ўдзел так шмат чытачоў. У агульнай колькасці рэдакцыя атрымала 27 званкоў, пісьмаў, паштовак. Правільна імя і прозвішча беларускага кінарэжысёра, а гэта Міхаіл Пташук, назваў 21 удзельнік. 6 чалавек прыслалі адказы няправільныя. А пераможцай стала Ганна Сянько з Вілейкі, ёй і дастанецца галоўны прыз – відэакасета. Заходзьце да нас па сертыфікат, які дасць вам права атрымаць відэакасету ў гандлёвых пунктах аўдыё- і відэатавараў, размешчаных у магазінах "Дзіцячы свет", "Пасаж", на калгасным рынку і міні-рынку "1000 дробязяў".

А цяпер – новае заданне, адказы на якое чакаем 10 дзён.

Правілы гульні наступныя. Па-першае, вы павінны адказаць на прапануемыя пытанні, да кожнага з якіх даюцца тры варыянты адказаў, адзін з іх – правільны. Па-другое, з кожнага слова-адказу трэба ўзяць першую літару і скласці з іх загадкавыя словы. Сёння гэта імя (пытанні пад №1-5) і прозвішча ( пытанні №6-11) знакамітага акцёра і кінарэжысёра 20 стагоддзя.

1. Хто з персанажаў вядомай байкі Івана Крылова цягнуў воз назад? (Лебедзь. Шчупак. Рак.)

2. Як называюць галоўнага начальніка ў казацкім паселішчы? (Пан. Атаман. Капітан.)

3. Якая з гэтых краін даўней насіла назву Багемія? (Швецыя. Чэхія. Харватыя.)

4. Як называлася апошняя літара ў царкоўнаславянскім алфавіце? (Фіта. Іжыца. Амега.)

5. Хто з гэтых беларускіх пісьменнікаў напісаў раман-эпапею "Векапомныя дні? (Лыванкоў. Шамякін. Мележ.)

6. Як называецца слова, утворанае шляхам перастаноўкі літар, якія ўваходзяць у склад другога слова? (Анаграма. Манаграма. Эпіграма.)

7. Якая з пералічаных рэлігій з'яўляецца самай маладой? (Будызм. Хрысціянства. Іслам.)

8. Як называюць жывёліну, якая перамагла на выставе або спаборніцтве? (Чэмпіён. Лаўрэат. Маэстра.)

9. Што з пералічанага выкарыстоўваецца ў медыцыне для прыпякання ран? (Сцізорык. Клінкер. Ляпіс.)

10. Якая кветка адлюстравана на дзяржаўным гербе Пакістана? (Архідэя. Лотас. Нарцыс.)

11. Якія з гэтых музычных інструментаў вырабляюць у беларускім горадзе Барысаве? (Гармонік. Піяніна. Цымбалы.)

Конкурс вядзе
Мікола ЛІПСКІ.

■ ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА

## Справа віляйчаніна працягваецца

**ВІЛЕЙКА. МАЛАДЗЕЧНА. У «РГ» №4 ад 23 студзеня мы пісалі, што затрымалі начальніка аднаго з аддзелаў завода «Зеніт», што ў Вілейцы. Хабарам у 100 долараў мужчына вырашаў пытанні аб закупцы «Зенітам» сыравіны — сплаваў каляровых металаў — у камерцыйнай фірме сталіцы.**

Віляйчаніна злавілі на гарачым учынку. Усё заснята схаванай камерай. Узбудзілі крымінальную справу, якой цяпер займаецца пракуратура Савецкага раёна Мінска.

Падчас допыту ён прызнаўся, што браў грошы не ўпершыню, а з кастрычніка 2003 года па 14 студзеня 2004 года. Грошы хаваў дома. Цяпер ён знаходзіцца пад дамашнім арыштам. Яму забаранілі выходзіць з кватэры, перапісвацца, весці тэлефонныя перамовы і зносіны з кім бы там ні было, акрамя членаў сям'і. Забараняецца карыстацца сродкамі сувязі, прымаць каго-небудзь у сябе.

Віляйчанін абавязаны тэлефанаваць тры разы на дзень — у 9.00, 13.00, 17.00 — у маладзечанскі міжраённы аддзел фінансавых расследаванняў, супрацоўнікі якога праводзяць аператыўнае суправаджэнне расследавання. Арыштаваны павінен адказваць на іх кантрольныя тэлефанаванні і прыходзіць па выкліках у праваахоўныя органы. Калі парушыць гэтыя ўмовы, яго возьмуць пад варту. За хабарніцтва пагражае ад 5 да 10 год пазбаўлення волі. Дарэчы, па словах старшага інспектара маладзечанскага міжраённага аддзела фінансавых расследаванняў Алега Місуна, аб хабарніку добра адгукаліся супрацоўнікі вілейскага завода.

З дасье. Затрыманы нарадзіўся ў 1966 годзе. Ураджэнец Брэстчыны. Мае вышэйшую адукацыю. Выхоўвае непаўналетняга сына.

Ірына РАБУШКА.

■ ВЫСТАВА

## Свет прыгажосці

**МАЛАДЗЕЧНА. Не толькі дзяўчынкі, але хлопчыкі ўмеюць добра шыць і вышываць. На выставе «Свет прыгажосці» яны прапануюць паглядзець свае работы.**

Яе ўдзельнікі займаюцца ў «Школе сямейнага выхавання дзяцей», што працуе пры цэнтры мастацкай творчасці навучэнцаў. Дзеці пашылі мяккія цацкі, звязалі кручком сурвэткі, каўнерыкі, шмат вырабаў макрамэ, а таксама зробленых па новай тэхналогіі. Калі дробна рэжуць пражу, на кардоне малююць эскіз. З дапамогай клею і вады атрымліваюцца качка, жар-птушка, падснежнікі. Наведвальнікі выставы ўбачаць дыпломныя работы выхаванцаў «Школы...» і тыя, што перамаглі на абласных конкурсах.

Ірына РАБУШКА.

## «Чырвоная рыба»

**МАЛАДЗЕЧНА. Выстава жывапісу мастака Сяргея Крука працуе ў памяшканні філіяла №1 гарадской бібліятэкі.**

"Ён наш пастаянны чытач, – сказала загадчыца філіяла Людміла Якубоўская. – Цікавіцца рознай літаратурай: фантастыкай, часопісам "Огонёк", газетамі". Аб тым, што ён мастак, у бібліятэцы даведаліся нядаўна, у снежні 2003 года, калі Сяргей Крук прапанаваў свае карціны для выставы. Ёсць сярод іх традыцыйныя пейзажы. Напрыклад, "Бэз ля закінутай хаты". А ёсць творы, разлічаныя на падрыхтаванага гледача: "Чырвоная рыба", "Пацалунак", "Аблезлы кот", "Геаметрычны лес".

Святлана ЦІШКО.

## Кінатэатр «Радзіма»

**6-8 лютага. "Анёлы Чарлі-2"**, баявік. Сеансы: 6 лютага – у 17.00, 19.00 і 21.00; 7, 8 лютага – у 15.00, 17.00, 19.00 і 21.00.
**9-15 лютага. "Піраты Карыбскага мора"**, ЗША, прыгоды, 2 серыі – у 18.30 і 21.00.
Прэм'ера. **"Навагодні паштальён"** (Станцыя "Поўнач"), Канада, фільм-казка – у 10.00, 12.00, 14.00 і 16.00.
**Для дзяцей**
**7, 8 лютага. "Прыгоды хлопчыка з ногцік і Цалёвачкі"**, ЗША, мультфільм – у 13.00.
Дабрачынныя сеансы, сродкі ад якіх будуць пералічаныя на будаўніцтва бібліятэкі імя Пушкіна. **7 лютага. "Дом уверх дном"**, ЗША, камедыя – у 11.00.
Кожную суботу ў 21.00 – дыскатэка.
Працуе бар. Камп'ютэрныя гульні.
Тэл. для даведак: 7-15-92, 7-06-30.

## Чалавек шукае чалавека

Суханос Іван Фёдаравіч, які жыве ў г. Канатоп Сумской вобласці (Украіна), цікавіцца лёсам свайго таварыша Аляксандра Русака, з якім ён быў разам у ФЗО г.Горлаўка Данецкай вобласці (Украіна) у 1949-1950 гадах. Хоча ведаць аб ім і просіць адгукнуцца яго самога ці яго родную сястру.

Кантактны адрас у Беларусі: г.Маладзечна, вул.Чарняхоўскага, 78. Шалафан Сяргей Мікалаевіч.

■ ІМЯНІНЫ

**6 лютага Праваслаўныя**: Ксеніі, Герасіма, Агапія, Анастаса, Вавілы, Цімафея. **Каталіцкія**: Дароты, Багдана, Паўла.
**7 лютага Праваслаўныя**: Віталя, Майсея, Піліпа, Рыгора, Селівана. **Каталіцкія**: Рамуальда, Рышарда, Тодара.
**8 лютага Праваслаўныя**: Ананія, Аркадзя, Івана, Іосіфа, Пятра, Сямёна, Фёдара. **Каталіцкія**: Герасіма, Яна.
**9 лютага Праваслаўныя**: Івана (Іаана Златавуста). **Каталіцкія**: Апалоніі, Кірылы.
**10 лютага Праваслаўныя**: Ісака, Фядоса, Яфрэма. **Каталіцкія**: Схаластыкі, Яцка.
**11 лютага Праваслаўныя**: Герасіма, Ігната, Лаўрэнція, Рамана, Селівана. **Каталіцкія**: Бярнарды, Марыі, Лазара, Люцыяна.
**12 лютага Праваслаўныя**: Васіля, Зіновія, Пятра, Рыгора, Феафана. **Каталіцкія**: Яўлаліі, Люцыяна, Мадэста, Мялеція, Юльяна.



# ЗНАЁМСТВЫ

Я – інвалід-апорнік, пазнаёмлюся з дзяўчынай ці жанчынай не старэй за 30 гадоў, невысокага росту, згоднай на пераезд. Т. у Смаргоні 33976 (Дзмітрый).

Добрая, прывабная жанчына, 39/164/80, шукае добрага, пяшчотнага, прыстойнага мужчыну для стварэння сям'і. 222310, Маладзечна-4, п/п МС 0666055.

